# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 14 (28)* *28 траўня — 3 чэрвеня 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*




## Пагром у рэдакцыі «Лідзкай газэты»

Калі гэтым панядзелкам супрацоўнікі «Лідзкай газэты» прыйшлі ў сваю рэдакцыю, дык удачылі вынікі пагрому. Дзьверы чатырох габінэтаў былі выламаны, парвана й раскідана чытацкая пошта, рэдакцыйная кніга загадаў. Скрадзены быў толькі тэлефонны апарат.

Газэта пасьлядоўна прапагандуе беларускае адраджэньне, журналісты імкнуцца чым паўней асьвятляць гісторыю Лідчыны, за апошнія месяцы надрукавалі некалькі артыкулаў пра дзеі Арміі Краёвай... Гэта ўжо чацьвёрты пагром у рэдакцыі за апошні час. Вядзецца сьледства.

**М. МІХАСЕЎ.**

## Небясьпечны цэзій

Дзякуючы сумесным дзеяньням супрацоўнікаў кафэдры дзіцячых хвароб Гарадзенскага дзяржаўнага мэдычнскага інстытута і прафкаму Бярозаўскага шклозавода, праведзены лябараторныя досьледы з нагоды анамальных зьяў у арганізме дзяцей вёскі Астроўна Лідзкага раёна.

Кіраўнічка досьледаў прафэсар Л. В. Евец паведаміла кар. «Пагоні»: «Мы выявілі, што ўтрыманьне цэзія ў мачы дзетак у 100 разоў перавышае усе дапушчальныя нормы, а гэта выклікае ў маладым арганізме малакроўе, аблысеньне, зьмены імунітэту.

**Г. У.**




**Рыбная лоўля ў каламутнай вадзе.** Мал. **С. ХАРЭЎСКАГА.**

# Гутарка пад акампанемэнт катэдральнага звона

Днямі мелі мы ў сябе ў Вільні цікавых гасьцей — хлапцоў і дзяўчат з Менску. Мы сустрэлі іх на панадворку дамкоў Таварыства Беларускай Культуры. Завязалася гаворка пра беларускія касьцельныя справы. Выдатным акампанемэнтам яе быў звон гадзіньніка на катэдральнай вежы.

У Менску вось ужо трэці год існуе беларуская парафія пры касьцёле Сьв. Тройцы, і нашыя госьці — якраз вернікі з гэтае парафіі. У Вільні ж сёньня беларускага касьцёла няма...

Гаворку распачала віленчанка спадарыня Людвіка Кардзіс.

— Калісьці ж і ў Вільні ўсё было! І сьвядомыя сьвятары, і сэмінарысты, і вернікі; перад вайной у касьцёле Сьв. Міхала былі беларускія набажэнствы; выдаваліся рэлігійныя газэты часопісы, кнігі... У 1989-м годзе мы паспрабавалі былі адрадзіць беларускі касьцёл тут, у Вільні. Арганізавалі касьцельную дваццатку, пісалі, хадзілі на прыёмы да ўладаў, духоўных і сьвецкіх. Аднак далей за добрыя намеры справа не зайшла. Рашучых захадаў з нашага боку не было, як не было й рэальнай падтрымкі з боку тых, да каго мы зьвярталіся. Ад тае задумы ў мяне засталася толькі тэчка з дакумэнтамі, цяпер ужо архіўнымі...

У нашых гасьцей настрой зусім іншы. Гавора Марыя Скуратовіч, завадатарка ў менчукоў:

— Мы якраз і прыехалі, каб дапамагчы вам. Маем даручэньне ад нашае Каталіцкае Грамады сустрэцца з тутэйшымі беларусамі, з тутэйшымі сьвятарамі. Галоўнае пачаць — каб далі свой касьцёл, далі добрага сьвятара,— а людзі пакрысе зьбяруцца. Мы пачыналі гэтак сама.

Дай Бог чутае бачыць, каб шчырыя парываньні менчукоў перадаліся віленскім беларусам.

— Мая мама была адной з першых, хто змагаўся за менскі Кальварыйскі касьцёл,— гавора Марыя Скуратовіч,— а мне ўжо даводзіцца ваяваць за наш касьцёл на Заталой Горцы. Тады ў Менску не было ніводнага дзейнага касьцёла. Людзі з 1972-га году пачалі настойліва дамагацца храма і ў 80-м улады вымушаныя былі перадаць касьцёл на Кальварыі.

Тры гады таму Беларуская Каталіцкая Грамада пачала арганізоўваць беларускую парафію ў касьцёле Сьв. Тройцы. Парафія ўжо даўно створана, а сам касьцёл дагэтуль не перададзены. Мы, абураныя тым, што ўлады цалкам ігнаравалі нашыя просьбы, пайшлі на адчайны крок — пасьля Велікоднага набажэнства засталіся ў касьцёле й дзяжурылі там дзень і ноч. Цяпер, праз тры тыдні, мы дамовіліся на кампраміс — у нашым касьцёле зноў праводзяцца канцэрты, але нам паабяцана, што касьцёл усё ж будзе перададзены цалкам.

— Як гэтая «вайна» адбілася на вашай парафіі? — пытаюся я.

— Ого, ўсе яшчэ болей зьядналіся! Гэтыя тры тыдні маліліся дзень і ноч — там ужо ўся прастора намоленая, добра перазнаёміліся адзін з адным, нашыя бабулі да нас, маладзейшых, сталі з большым даверам ставіцца.

— А што, дагэтуль былі праблемы з пакаленьнямі?

— Натуральна,— розныя пакаленьні — рознае выхаваньне, густы. Мы, напрыклад, сьпяваем хрысьціянскія песьні пад гітару. А нашым бабулям яны здаюцца завясёлымі, загучнымі, ледзьве ня скочнымі. Вядома, гэтыя песьні не для храма, але нам з гэтымі песьнямі цікава, асабліва, калі выпраўляемся кудысь у вандроўку-пілігрымку.

Гадзіньнік на вежы адбіў ужо пару гадзін... Мы гаварылі пра новыя сустрэчы, сумесныя вандроўкі, напрыклад, у верасьні, калі ў Летуву прыедзе Ян Павал II. Хто ведае, можа, з дапамогаю нашых сяброў зварухнецца справа з беларускім касьцёлам і ў Вільні.

**Сяржук ВІТУШКА.**

Днямі адбылася нечарговая канфэрэнцыя гарадзенскай рады БНФ. На трэці зьезд Беларускага народнага фронта, які мае адбыцца 28—30 траўня ў Менску, абрана 18 дэлегатаў з 20.

Дарэчы, на канфэрэнцыі была абмеркавана дзейнасьць грамадзка-палітычнага аб'яднаньня імя К. Каліноўскага. Прысутныя пагадзіліся, што «каліноўцы» ўзьніклі на глебе значнага паніжэньня актыўнасьці сяброў БНФ.

**Г. У.**

## Правадыр — інвалід

Амаль цэлы год у цэнтры пасёлка Астрына на Шчучыншчыне панура стаіць бязрукі Ільіч. Многа дзесяцігодзяў яго «правадырская» рука паказвала кірунак да сьветлай будучыні. Але сёньня ці то пажартаваў хтосьці, ці мясцовыя хуліганы «павесяліліся», але правадыр застаўся інвалідам.

Як адрэагавалі на гэта мясцовыя ўлады? Аніяк! Зьняць помнік, які стаў пасьмешышчам, баяцца. Прыляпіць новую руку таксама цяжка — няма сродкаў.

Кажуць, днямі старшыня аднаго мясцовага калгаса даў згоду быць фундатарам аднаўленьня рукі Ільіча.

**А. ЗАСКАМКА.**

## Дзеля самаабароны

Некаторыя гарадзенскія памежнікі пачалі набываць газавыя пісталеты. Справа ў тым, што згодна існуючаму яшчэ савецкаму закону, памежнікам не выдаецца зброя. У час дагляду й кантролю пасажырскіх цягнікоў, якія ідуць у замежжа, бяззбройныя памежнікі нярэдка сутыкаюцца з шантажом, нават пагрозамі. Каб адчуваць сябе больш упэўнена ў такім становішчы, некаторыя афіцэры памежнай службы набываюць на сваю рызыку вось такую ўласную зброю.

**(га).**

 







# *ГРАМАДЗТВА*

## Віленскія паведамленьні

**ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА.** Рэктар Віленскага ўнівэрсітэту Р. Павілёніс на паседжаньні сэната ўнівэрсітэту прапанаваў з кожнага ўдзельніка паседжаньня, які дапусьціў памылку ва ўжываньні летувіскае мовы, браць штраф — 1 талён за адну памылку.

**БЕСПРАЦОЎЕ.** На 1 траўня ў Летуве 100 тысяч працаздольных людзей ня мелі працы. З іх 30 тысяч зарэгістраваліся як беспрацоўныя. Узровень беспрацоўя на раёне ўдвая вышэйшы, чым у горадзе. У горадзе гэты паказчык найвышэйшы ў Аліце (Алітус), Панявежы й Вільні. Менш за ўсё беспрацоўных у Коўне. 23 працэнты беспрацоўных — былыя работнікі прамысловых прадпрыемстваў, 17 працэнтаў — працаўнікі сельскай гаспадаркі, 11 — будаўніцтва, 10 — гандлю й грамадзкага харчаваньня.

**СЬМЕРЦЬ.** Штодня ў Летуве гэты сьвет пакідаюць 114 чалавек. Для трохмільённай краіны гэта зашмат. Статыстыка сьведчыць, што сёлета ўпершыню за пасьляваенны час сьмяротнасьць у Летуве перавысіла нараджальнасьць. Атрымліваецца, што за год вымірае адзін з 44-х раёнаў краіны.

**ГРОШЫ.** Банк Летувы выпусьціў у абарачэньне новую купюру вартасьцю 500 таленаў. Гэта насуперак рэкамэндацыям Міжнароднага валютнага фонду спыніць эмісію перад увядзеньнем нацыянальнае валюты — літа. Праўда, другую рэкамэндацыю МВФ урад Летувы вытрымлівае, адмоўўшы настаўнікам у падвышэньні заробку да 10 пражыцьцёвых мінімумаў. У выніку настаўнікі пачынаюць страйк, і ў дзяцей сёлета ў чэрвені ёсьць шанц не здаваць школьныя іспыты. Між тым, абменныя пункты ў Вільні амаль спынілі скупку цьвёрдай валюты, што тлумачыць недахопам таленаў, бо атрымалі распараджэньне мець гатоўкаю па 600 мільёнаў. Цяпер у «эксчэйнджах» стаяць велізарныя чэргі, а канвэртаваная валюта толькі за два дні 14-15 траўня патаньнела на 20%. Гэтак, даляр ЗША 13-га скуплялі па 540, а 15-га ўжо па 450. Штучны рост талёна аніяк не адбіўся на цэнах, якія працягваюць расьці.

**Паводле матэрыялаў СМІ падрыхтаваў А. К.**

## Сьвята песьні

Па-сапраўднаму сьвяточна праходзіў у мінулую нядзелю ў памяшканьні Дома афіцэраў Горадні Другі фэстываль польскай песьні. У ім брала ўдзел каля пяцісот чалавек практычна з усіх раёнаў Гарадзеншчыны, а таксама з Менску й Берасьця.

Адкрыцьцё сьвята распачалося набажэнствам ў Кафэдральным саборы. Госьці фэстывалю з розных гарадоў і вёсак Беларусі брали ўдзел яшчэ і ў канцэртах, арганізаваных на сцэне Старога парку. Адметнасьць гэтага фэстывалю ў тым, што, акрамя дарослых, у ім бралі ўдзел і дзеці.

Аддзел культуры Гарадзенскага гарвыканкама зацьвердзіў для ўдзельнікаў спэцыяльныя прызы. А ладзіў гэта сьвята Саюз палякаў на Беларусі з дапамогай Міністэрства Культуры РБ.

**(ав).**

## Жыве яшчэ піянерыя!

Вельмі зьдзівіліся травеньскай раніцай шчучынцы таму, як па вуліцах райцэнтра маршыраваў у белых кашульках пад чырвонымі гальштукамі атрад піянераў. Дзеці перапытвалі дарослых, а хто гэта такія? Толькі ўвечары даведаліся, што па горадзе вандравалі школьнікі адной з вясковых школаў раёна, якія пажадалі на яве спазнаць гарадзкое жыцьцё.

**А. ЗАСКАМКА,**
**г. Шчучын.**

## Першы Дом палякаў

22 траўня, у суботу, у Горадні на вуліцы Дзяржынскага адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Дома палякаў, у якім памясьціўся часовы цэнтар Польскай культуры. Дом гэты быў збудаваны меней, чым за год. Цырымонія пачалася з таго, што ўсе, хто сабраўся з гэты момант каля новага будынку, засьпявалі гімн Палёніі.

Як зазначыў у сваім выступленьні старшыня Саюза палякаў на Беларусі Т. Гавін: «Гэты дзень стане гістарычным для нашых абедзьвюх краін». Ён таксама дадаў, што раней за бальшавікамі марыць аб такой урачыстай падзеі ня мог ніводзін паляк на Беларусі. А таксама зазначыў, што цяпер чарга за адкрыцьцём польскіх школак.

Дзеля гэтай падзеі Горадню спэцыяльна наведаў старшыня сусьветнай Палёніі А. Стэльмахоўскі, які вельмі ўсхвалявана віншаваў тутэйшых палякаў і зазначыў, што чалавек, які ня мае свайго дому, адчувае сябе ня вельмі ўтульна, дзе б ён ня жыў. А. Стэльмахоўскі выказаў надзею, што польская меншасьць на Беларусі будзе мець усе магчымасьці, каб і надалей адраджаць і разьвіваць сваю культуру.

Ад мясцовых уладаў віншаваньні выказаў намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкама А. Мілінкевіч. Ён таксама выказаў надзею, што ў нашым горадзе хопіць месца ўсім культурам, якія здаўна тут прыжыліся й заўсёды мірна суіснавалі. Урэшце ўсім палякам спадар Мілінкевіч пажадаў традыцыйных «сто лят».

На адкрыцьці Дома палякаў таксама прысутнічалі консул Польшчы ў Менску К. Длужэўскі й сэнатар польскага Сойму Ю. Галаса, якія шчыра й нешматслоўна павіншавалі гаспадароў цудоўнага Дома.

Была зачытана віншавальная тэлеграма, дасланая Міністэрствам культуры Беларусі на адрас Саюза палякаў з нагоды гэтага сьвята.

Бела-чырвоную стужку перарэзаў ганаровы госьць А. Стэльмахоўскі. Згодна з каталіцкай традыцыяй цырымонію скончыў сьвятар, які прачытаў малітву й асьвяціў дом.

Пасьля ўрачыстае часткі на падворку каля дома адбыўся невялікі канцэрт.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**



# Вэтэраны, вэтэраны, ці беларускія сыны?

Абмовімся адразу: гаворка пойдзе не пра вэтэранаў наогул, а тычыцца тых, якія сёньня, на маю думку, стаяць на пазыцыях непрыняцьця беларускага, актыўна з гэтым, беларускім, змагаюцца — і словам, і дзеяньнямі.

У свой час, працуючы ў рэдакцыях раённых газэт Меншчыны й Гарадзеншчыны, мне даводзілася многа пісаць пра людзей сталага веку. Сумленныя працаўнікі, сьціплыя й нешматслоўныя, яны неахвотна распавядалі пра сябе, свой удзел у Вялікай Айчыннай. Напрацаванымі рукамі бралі пудэлак з узнагародамі, сярод якіх асноўнымі былі медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», й проста, па-салдацку шчыра й па-сялянску адкрыта, гаварылі пра баі, раненьні, сяброў, сьмерць...

Магчыма, тыя вэтэраны яшчэ й цяпер жывуць у вёсках дый маленькіх райцэнтрах. Яны аднойчы на год — 9 мая — у сьвяточных гарнітурах прыходзяць да магілы ахвяр вайны, каб аддаць даніну павагі сваім роўналеткам, палеглым даўно, амаль 50 гадоў назад.

Вэтэранаў гэтай катэгорыі мала запрашаюць на вечарыны, яны аднекваюцца, маўляў, які я герой, прасядзеў у акопах, аўтаматчыкам быў (артылерыстам, мінёрам, у разведузводзе...). Ды й распавядальнікі з іх ня лепшыя. Хіба дзеці зразумеюць нешта, слухаючы такога дзядка, пра вайну, кроў і слёзы? Мала падыходзяць вясковыя вэтэраны для вядзеньня ваенна-патрыятычнага выхаваньня. І ваявала асноўная маса толькі з лета 1944. Ці не таму ў нашым грамадзтве даўно зьявіліся штатныя выступанцы з асяродку вэтэранаў. Ім нічога не каштуе чыркнуць артыкул пра вайну ў газэту, выступіць па радыё, перад любой аўдыторыяй.

Вы таксама не раз слухалі гэтых прапагандыстаў. І я слухаў. І параўноўваў з тымі вэтэранамі, вясковымі, адкрытымі сэрцам і душой. Вось што цікава: нешта ня бачна сярод актывістаў вэтэранскага руху простых вайроў, усе палкоўнікі й падпалкоўнікі, дзе-нідзе маёр-капітан сустрэнецца. Аднак гаварыць толькі ад імя ўсіх вэтэранаў, нібыта запыталіся ў іх дазволу. Успаміны льюцца гладка, як па пісанаму, гучаць словы накшталт «наша армія», «наша дывізія», «камандуючы фронтам даў загад...», «мы фарсіравалі Нёман», «загінула нямала нашых таварышаў» і г. д. Відавочна, што такі палкоўнік-падпалкоўнік мае час для чытаньня мэмуарнай літаратуры. Міжволі думаецца: ну а твой удзел у вайне чым вымяраецца? Табе што, сам гэнэрал даваў загад ці са штабнога бліндажу ўвесь фронт быў як на далоні?..

Яшчэ адно назіраньне. Ёсьць ветэраны тутэйшыя й ёсьць вэтэраны, якія цягам лёсу засталіся на заходніх землях Беларусі пасьля вайны. Альбо партызанілі тут у складзе дывэрсійных груп, атрадаў. Многія потым занялі кіруючыя пасады ў райкамах, выканкамах. Мясцовым, відаць, веры не было — былі пад акупацыяй...

Так што вэтэран вэтэрану не роўня. Адныя дбаюць пра хлеб наяўны, другія плануюць, як надалей захаваць у памяці народнай веліч перамогі над фашызмам. І тут нічога не скажаш — патрэбная справа. Але бярэ роздум, асабліва пасьля нядаўняга аб'яднанага пленума вабласной арганізацыі аховы помнікаў культуры й вабласной вэтэранскай арганізацыі. Па-першае, чаго тут было больш — палітыкі ці ўсё ж абмеркаваньня пытаньня парадку дня?

У асноўным дакладзе прыводзілася безьліч лічбаў: колькі на Гарадзеншчыне помнікаў, пастаўленых на месцах былых расстрэлаў савецкіх грамадзян фашыстамі, у памяць аднавяскоўцаў, што загінулі ў партызанах і на фронце, у якім стане сёньня гэтыя помнікі, гаварылася пра варварства ў адносінах да манумэнтаў, дзейнасьць першасных арганізацый на месцах...

Абмеркаваньне больш нагадвала справаздачы, дзе-нідзе густа замешаныя на палітыцы. Напрыклад, прафесар У. Верхась чамусьці пачаў выкладаць погляды на сучасны момант з пункту гледжаньня сваёй партыі камуністаў Беларусі. У зале недаўменна пераглядваліся, перашэптваліся: навошта праводзіць партсходы?

Упершыню асабіста слухаў шаноўнага вэтэрана А. Цітова. Што й казаць — мастак, умее трымаць аўдыторыю. Пачаў з таго, што ўлады не глядзяць за тым, каб схапіць за руку падлеткаў, якія зьбіваюць прозьвішчы воінаў з мэмарыяльных помнікаў, а скончыў дэмагагічным патыньнемсьцьвярджэньнем: раней пра памяць загінуўшых клапаціліся партыйныя арганізацыі, то мо якраз бяда ў тым, што іх няма...

Народны дэпутат Беларусі М. Лакцюшын зусім выступаў не па тэме. Ён рашуча накінуўся на БНФ, Зянона Пазьняка й іх прыхільнікаў. Гаварыў пра эмэрыканскія даляры, грамадзкія арганізацыі, якія развалілі (!) Саюз. Увогуле, мог і не закранаць гэтых тэм, бо мы неаднаразова слухалі паважанага вэтэрана падчас яго выступленьняў на сэсіі Вярхоўнага Савета, яго заклікі да ваеннага саюза з Расеяй, інтэграцыю эканомікі рэспублікі ў эканоміку вялікага ўсходняга суседа. Але прычым тут помнікі?

 

# *ЭСПЭРАНТА*

# Гарадзенскі акуліст Лазар Замэнгоф

У архіўных дакумэнтах, знойдзеных у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі ў г. Горадні, значыцца імя лекара-акуліста Лазара Маркавіча Замэнгофа, які жыў у доме Разманінай на Паліцэйскай вуліцы, (цяперашняя — Кірава). Захавалася асабістая распіска Л. Замэнгофа з наступным зьместам: «Я, ніжэй падпісаны, ў складзе чыноўнікаў ваенна-медыцынскага ведамства, ў выпадку вайны жадаю выконваць ваенна-медыцынскія абавязкі па месцы майго жыхарства, ў г. Горадні.

Л. Замэнгоф».

Лазар Маркавіч Замэнгоф нарадзіўся ў г. Беластоку Гарадзенскай губэрні ў інтэлігэнтнай габрэйскай сям ʹі. Дзед і бацька працавалі выкладчыкамі замежных моў. У тагачасным Беластоку насельніцтва (30 тыс.) складалася з 5-ці асноўных этнічных груп: палякаў, рускіх, габрэяў, немцаў, беларусаў. У дзяцінстве Лазар здолеў вывучыць усе мясцовыя мовы, дасканала валодаў рускай, пісаў на ёй вершы. Сьведка многіх нацыянальных канфліктаў, Л. Замэнгоф марыў аб нэйтральнай мове, агульнай для ўсіх людзей — як сродку, які ўсталюе мір і павагу паміж народамі: «Я з дзяцінства пачаў марыць аб тым шчасьлівым часе, калі ўзнікнуць мова й краіна, якія будуць з поўным правам належаць усім сваім грамадзянам, калі людзі зразумеюць і пакахаюць адзін аднаго».

З гэтай ідэяй Замэнгоф пачаў працаваць над стварэньнем нэйтральнай мовы. Вучнем 8-ай клясы філалягічнай гімназіі ён ужо стварае першы праэкт новай мовы. Але бацька дамагаецца, каб ён паступіў на мэдыцынскі факультэт Маскоўскага унівэрсітэта... Калі сын вучыўся у Маскве, Марк Замэнгоф, які лічыў задумку Лазара дарэмнай справай, спаліў рукапісы сына...

У бацькоў не хапала сродкаў вучыць сына ў Маскве, і Лазар вяртаецца да Варшавы, дзе працягвае адукацыю ў Варшаўскім унівэрсітэце. Атрымаўшы дыплём лекара, ён практыкуе ў клініках Вены, а затым вяртаецца ў Варшаву. Днямі ён лечыць хворых, а вечары прысьвячае сваім двум ідэялам — міжнароднай мове й беззнацыянальнай рэлігіі. У Варшаве Лазар Замэнгоф распрацоўвае другі праэкт мовы. Але на працягу двух год ён ня можа знайсьці выдавецтва, якое згадзілася б надрукаваць працу лекара асобнай кнігай.

Толькі ў 1887 годзе выходзяць у сьвет першыя падручнікі Эспэранта на рускай, польскай, нямецкай і францускай мовах. Першую кнігу Замэнгоф падпісаў псэўданімам — «Доктар Эспэранта» — доктар, які спадзяецца. Пазьней слова «эспэранта» стала агульнай назвай новай мовы, якая атрымала падтрымку вучоных-лінгвістаў, дзяржаўных дзеячоў розных краін сьвету.

■

У пошуках заробку сям ʹя Замэнгофа часта пераяждзала з месца на месца. У кастрычніку 1893 года Л. Замэнгоф перасяляецца ў Горадню. Тут на працягу 4-х год ён працуе доктарам-акулістам. З поўнага збора твораў Л. Замэнгофа мы можам даведацца аб тым, што, жывучы ў Горадні, ён займаўся рэформай Эспэранта, рыхтаваў матэрыялы для кніжнай сэрыі «Бібліятэка», рэдагаваў часопіс «Эспэрантыст». У № 12 за 1894 год у ім ёсьць цікавая абвестка: «З наступнага нумару (студзень 1895) наш часопіс поўнасьцю будзе рыхтаваць Замэнгоф, які цяпер ня толькі рэдактар, але й яго адміністратар. Аб гэтым мы й інфармуем нашых паважаных чытачоў і просім афармляць падпіску ў самага Замэнгофа ў г. Горадні».

Большую частку творчай энэргіі Л. Замэнгоф аддаў стварэнню міжнароднай мовы, падручнікаў і слоўнікаў. Але гэтым ня вычэрпваецца яго талент. Ён таксама складаў вершы на мове Эспэранта. Многія радкі яго вершаў сталі крылатымі выразамі для экпэрантыстаў. Ягоны верш «Эспэра» («Надзея»), пакладзены на музыку французкім эспэрантыстам Фільенам Мэньо дэ Мэні, стаў міжнародных гімнам і гучыць на міжнародных кангрэсах і сустрэчах эспэрантыстаў. Радкі гімна «Народы ў згодзе ўтвораць адно вялікае сямейнае кола» высечаны на гранітнай мэмарыяльнай шыльдзе на доме № 5 па вуліцы Кірава ў Горадні.

Л. Замэнгоф пераклаў на мову Эспэранта многія клясічныя творы, шэдэўры мастацкага слова, такія, як «Гамлет» Шэкспіра, «Лотры» Шылера, «Рэвізор» Гогаля, «Казкі Андэрсэна» ў 4-х тамах, «Біблію».

Сьветапогляд Л. Замэнгофа, яго жыцьцёвая пазіцыя й філязофія адлюстраваны ў зборы пісьмаў і прамоў на міжнародных кангрэсах. Поўны збор твораў Л. Замэнгофа ў 12-ці тамах выдадзены ажно ў Японіі ў 1973 годзе.

■

Сусьветная грамадзкасьць даўно прызнала вялікае значэньне мовы Эспэранта ў міжнародных зносінах. Імя Л. Замэнгофа вядома ва ўсім сьвеце, а яго лінгвістычны твор — мова Эспэранта — вось ўжо больш за 100 гадоў жыве на зямлі. Філёзаф-гуманіст Л. Замэнгоф спадзяваўся, што Эспэранта стане сродкам аб ʹяднаньня ўсіх зямлян, паслужыць разьвіцьцю братэрскіх узаемаадносін паміж людзьмі, незалежна ад нацыянальнасьці, веравызнаньня й сацыяльнага паходжаньня. І сапраўды, мова Эспэранта стала мовай міжнародных зносін, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі, калі ўсё больш і больш пашыраюцца эканамічныя й культурныя сувязі паміж рознымі краінамі сьвету. Эспэранта стала адной з рабочых моў на міжнародных кангрэсах, на ёй чытаюца даклады й абараняюцца навуковыя дысертацыі.

На Эспэранта выдаецца звыш 200 найменняў газэт і часопісаў, найбольш вядомыя — «Чалавек і космас», «Міжнародны агляд», «Навуковы агляд». 45 радыёстанцый сьвету працуюць на мове Эспэранта. Дзесяткі мільёнаў людзей размаўляюць і вядуць перапіску на Эспэранта, яна вывучаецца ў школах і вышэйшых установах розных краін сьвету.

Існуе Міжнародная Асацыяцыя эспэрантыстаў з цэнтрам у Ротэрдаме (Нідэрланды), існуюць дзесяткі арганізацый Эспэранта, ў тым ліку прафэсійных — ліг, аб ʹяднаньняў, асацыяцый. Дыплёмы й атэстаты Міжнароднай акадэміі Навук ў Сан-Марыне, рабочай мовай якой зьяўляецца Эспэранта, высока ацэньваюцца ў дзяржавах Эўропы й Амэрыкі. Аўтарытэтнымі прыхільнікамі Эспэранта зьяўляюцца ААН (UNESKO) і Сусьветны Савет Міру.

■

«Эспэра» — «Надзея» — так называецца Гарадзенскі Эспэранта-клуб, які з 1983 года дзейнічае пры гарадзкім Доме культуры па вул. Дзяржынскага, 1. Тут беражна захоўваюцца копіі з архіўных дакумэнтаў, у якіх

**(Працяг на 4-й стар.).**

## ЧАЭС імя Леніна

«Барысаўская макаронная фабрыка імя У. І. Леніна», напэўна, й сёньня гэтак жа завецца. Недарэчна-сьмешная назва. Чарнобыльская атамная электрастанцыя таксама была «імя У. І. Леніна». Злавесна-жыцьцёвая назва, якая без лішніх словаў адлюстроўвае сапраўдную, а не рэклямную сутнасьць савецкай улады. «А цяпер, ядрону маць, і Чарнобыль будуць знаць!»

Злачынства стагоддзя, а потым замоўчваньне, сакрэтнічаньне (вядома ж — у імя «дзяржаўных інтарэсаў»), хлусьня. Сьлюнькоў у партыйным сьвербе рапартуе Маскве: справімся самі. Мы, беларусы, кінутыя й нікому не патрэбныя, абыляныя, «уличенные» у радыёфобіі маскоўскім акадэмікам Ільіным з хеўрай, якія зрабілі на ахвярах капітал... Напаўпустыя прылаўкі ў крамах і малако, мяса з радыёнуклідамі. Чысцейшае мяса — у Гомельскую вобласьць, атручанае — нам. Масква ўпарціцца й не жадае даваць грошы на чарнобыльскія справы. У падзяку Гомельская з Магілёўскай вобласьці рашуча галасуюць на рэфэрэндуме за Савецкі Саюз...

Украінцы прыдумалі «Хай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС», мы паўтараем, а КПСС у Чарнобыль ня хоча, нават абураецца: тэорыя, маўляў, была прыгожая, марксізм-ленінізм, а таму варта яшчэ раз паўтарыць. Як, цікава, пры патрэбе зноў прагаласуе макаронная фабрыка імя Леніна — за «ЧАЭС імя Леніна» ці не?..

**(бр).**

Падумалася: цікавая справа! Тав. Лакцюшын, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, і яго аднадумцы-вэтэраны, абраныя не народным галасаваньнем, а на пленумах і канфэрэнцыях, сёньня вядуць рэй супраць сувэрэнітэту Беларусі, яе дзяржаўнай мовы, незалежнасьці. Паразважайце над тэкстамі выступленьняў гэтых «выбраньніцаў», як правіла, старшынь гарадзкіх і раённых арганізацый вэтэранаў вайны й працы. Шмат аб чым гавораць вынікі паіменнага галасаваньня па тых ці іншых пытаньнях.

50-годдзе перамогі над фашысцкай Германіяй сапраўды вялікае сьвята. І дзіўна цяпер чуць пра пахаванні салдат Вялікай Айчыннай. Чые косьці ўсё яшчэ ляжаць на зямлі. Паўстагоддзя не хапіла, каб зрабіць гэта. Усё не ставала сродкаў. Аб вэтэранах заўсёды ўспаміналі толькі перад круглымі датамі. І ўзводзілі пампезныя мэмарыялы — халодныя й ўрачыстыя. Не шкадавалі мільёнаў грошай. А ў той жа час па вёсках бедавалі адзінокія салдацкія ўдовы. Мне даводзілася ня раз пісаць пра гэтых жанчын, для якіх дроў прывесьці ці комін перакласьці ставалася вялікай праблемай.

Цяпер зьявілася задумка чарговага помніка — той удаве салдата, што загінуў на фронце. Зноў жывы чалавек і клопат пра яго падмяняецца каменнай скульптурай. Так прасьцей, чым штодня дбаць пра старога вэтэрана, вырашаць яго праблемы. Зноў будзе месца для правядзеньня ўрачыстасьцяў, дзе будуць гучаць высокія словы пра подзьвіг народа, падзяка воінам — жывым і мёртвым. Дык паклапоцімся пра жывых! Хопіць слоў! Далі Бог, адрамантаваная хата ўдзельніка вайны, стварэньне яму нармальных умоў жыцьця — куды больш значна, чым манумэнт, якіх досыць на нашай зямлі.

Раней мы часта чыталі: вэтэрану ёсьць да ўсяго справа. Такі журналісцкі штамп. Ад пільнага вока састарэлага актывіста нічога не ўскліпне. Сігналізавалі пра ўсё: дрэнныя дарогі, аблічваюць у крамах, ходзяць у царкву, носяць шырокія (вузкія) штаны, не паважаюць старэйшых, жывуць не па сродках...

Сёньня частка вэтэранскіх дзеячоў, і найперш з дэпутацкімі значкамі, рашуча кінулася ў бойку за ўласныя прынцыпы. Што ж не падабаецца? А ўсё, што не супадае з іх меркаваньнямі. Гэрб, сьцяг, новыя назвы вуліц, дзейнасьць улад. Чыясьці нябачная рука зараз накіроўвае крыжовы паход супраць намесьніка старшыні гарвыканкама Аляксандра Мілінкевіча. У газэтах камуністычнага накірунку раптам зьявіліся допісы супраць яго. Прычым, па-бальшавіцку раз ʹюшаныя й бяздоказныя, дзе акрамя лаянкі й прымітыўнага мысленьня нічога добрага няма. Даўся ж у знакі Аляксандр Уладзіміравіч як сваімі артыкуламі ў прэсе, так і цьвёрдай пазіцыяй дэмакратычнага кіраўніка. І справа тут не ў назвах вуліц, нават не ў надуманай спробе працягнуць праз сэсію гарсавета пытаньне аб пераносе помніка правадыру пралетарыяту (гэтае пытаньне наогул не ставілася на парадак дня). Усё куды больш сур ʹёзна. Па-сутнасьці, вядзецца дыскрэдытацыя праз асобу А. У. Мілінкевіча беларусізацыі ў Горадні, вяртаньня да сваёй гістарычнай памяці й спадчыны. Звыш- і проста інтэрнацыяналісты раптам занепакоіліся лёсам вуліц Суворава, Чапаева, Сацыялістычнай. Горкага, Астроўскага і іншых на сёньня замежных для нас военных, палітычных і культурных дзеячоў. Занепакоіліся зьменай звыклага ладу жыцьця, прыходам да ўлады маладых палітыкаў прагматычнага кірунку. Ці не таму вэтэраны з ліку адстаўнікоў Узброеных Сіл, былых намэнклятурных работнікаў так часта наведваюцца ў гарвыканкам, каб заявіць свой чарговы рашучы пратэст з нагоды й без яе. А галоўнае нагадаць пра сябе, пацешыць старэчае самалюбства — вось мы вам пакажам, ёсьць яшчэ порах, ведай нашых. А каб візыты былі больш пераканаўчымі, не пашкодзіць і чырвоны сцяжок вышэй галавы ўзьняць, накрэмзаць на паперцы заклік накшталт «Беловежский сговор — путь к предательству!»...

Запомніліся словы аднаго з верхаводаў камуністаў горада Архіпава падчас першамайскага мітынгу. У адказ на не вельмі ўдалае выступленьне кіраўніка гарадзкой філіі Грамады шаноўны навуковец заклікаў сваіх прыхільнікаў і аднадумцаў прыслухоўвацца да думкі, якая не супадае з асабістай. Трэба навучыцца пераконваць не толькі сьвістам і крыкам, а аргумэнтамі, доказамі. Калі ж гэтага няма, то лепш памаўчаць. Гэта я дадаю ад сябе.

**В. КАВАЛЕЎ.**
**г. Горадня.**

## ● Пошта
## Недарэчны ліст

Паважаная рэдакцыя! Я выпісаў на другое паўгоддзе газэту «Пагоня», а пакуль што купляю яе ў кіёску.

Трымаю ў руках два апошнія нумары, 11-ы й 12-ты, якія варта было б пахваліць, калі б не адзін вялікі «пракол»: артыкул «Вось табе й воля», Беларусь...» у адзінаццатым нумары. Зрэшты, сам артыкул ня варты таго, каб пра яго зьмест выказваць нейкія меркаваньні. Гэта ліст не проста нацыяналіста, але чалавека, апантанага ненавісьцю да іншага народа. Да таго ж аўтар абражае ня толькі палякаў, але й беларусаў-каталікоў, называючы каталіцызм і вунію «сьмяротнымі ворагамі» беларускага народа. Зьдзіўляе, што рэдакцыя палічыла неабходным надрукаваць гэты ананімны (!) ліст, у якім хутчэй тэндэнцыйныя эмоцыі, чым пазіцыя, падмацаваная фактамі (цытую вашыя словы з уступу).

Што ж датычыць заклiку выказаць свае думкі пра беларуска-польскія адносіны, то чытачы, безумоўна, адгукнуцца на яго. Магчыма, й я пазьней напішу на гэтую тэму. Шкада толькі, што дыскусія пачынаецца з вельмі недарэчнага ліста ананімнага аўтара.

**Ф. ЛІТВІНОВІЧ,**
**г. Ашмяны.**





# КУЛЬТУРАЛЁГІЯ

## Краязнаўчы музэй

«Я зноў пераконваюся, што спазнаньне сьвету пачынаецца са спазнаньня роднага краю... альбо сканчаецца ім»,— гэта словы з раману вядомага нямецкага пісьменьніка Зыгфрыда Ленца «Краязнаўчы музэй». Ягоны галоўны гэрой — Зыгмунд Рагала, мазур па нацыянальнасьці, пасьля дэпартацыі свайго народу ў Нямеччыну напрыканцы Другой Сусьветнай вайны стварыў там краязнаўчы музэй сваёй «фатэрлянд» — Мазурыі, якая адыйшла да Польшчы пасьля падзелу земляў Усходняе Прусіі. Захопленыя магчымасьцю далучыцца да «вышэйшае арыйскае нацыі», суайчыньнікі Зыгмунда Рагалы зьдзекуюцца з яго, маўляў, паглядзіце: кожны экспанат славянскага паходжаньня горшы ад твораў нямецкага народнага мастацтва. Але ўпарты руплівец знаходзіць аднадумцаў, з энтузіязмам над стварэньнем музэя працуе ўся яго сям ́я.

Час ідзе, мацнеюць сілы рэваншызму, зьяўляецца патрэба ў ідэялягічным падмацаваньні. Узгадваюць пра музэй, дзе кожны экспанат нібыта сьведчыць пра сапраўды арыйскае паходжаньне жыхароў Мазурыі, пра тое, што яна зьяўляецца спрадвечна нямецкай зямлёю. І тады Зыгмунд Рагала спаліў свой музэй. У полымі загінулі неаднаўляльныя творы народнага мастацтва, кнігі, кілімы. Гэта страшная трагедыя для ўсёй сям ́і. Ад яго адварочваюцца. Абгарэлы Рагала самотна ляжыць у шпіталі й павольна распавядае сваю сумную гісторыю маладому немцу — жаніху сваёй дачкі, які адзіны прыходзіць да старога з мэтай хоць неяк разабрацца ў тым, што здарылася...

Я прачытаў раман у 1985 годзе. І хаця разьмераная ціхая споведзь галоўнага героя выкладалася аж на пяцістах старонках тэксту, я тады так і не зразумеў яго ўчынку. Тады я й ня мог яго зразумець. А нядаўна ўзгадаў падзеі 1990-га году й жахнуўся, як шмат часу прайшло. Цэлая эпоха. І толькі нядаўна да нас пачаў даходзіць сэнс гэтай жорсткай алегорыі рамана Зыгфрыда Ленца.

Зараз мы, мабыць, палім свой «краязнаўчы музэй».

ЯШЧЭ пару гадоў таму не існавала беларускае палітыкі. Была толькі культура, часткова афіцыйная. А таму яна нагадвала айсбэрг, у якога невялічкая легальная частка бачылася над паверхняю вады. Пару гадоў таму штормам айсбэрг быў выкінуты на бераг выспы. Разгубленыя дзеячы культуры раптам зразумелі, што выспа тая — беларуская дзяржава, пра якую яны толькі марылі, а другія баяліся марыць. Зкрышталізаваны вакол асноўнае глабальнае традыцыі — «Пагоні», якая ледзь-ледзь праглядала праз тоўшчу замёрзлае вады, айсбэрг пачаў раставаць. «Пагоня» вызвалілася й стала гэрбам-здабытчыкам усяе выспы. Тут і пачаўся крызіс культуры.

Тая невялічкая легальная частка са зьдзіўленьнем убачыла, што ніхто нічога ў іх не забірае, а таму, не марудзячы, пачала далей займацца звыклымі справамі: надаваць сабе народныя званьні, друкаваць свае, нікім не чытаныя кніжкі, фільмаваць нікому не цікавае кіно.

Усе астатнія пачалі ліхаманкавыя пошукі страчанае традыцыі. Збольшага выхадцы з правінцыі, з вёскі, яны раней наракалі на гараджан (маўляў, вам усё на сподачку, а мы кроўю й потам), а цяпер вырашылі, што хопіць такіх стратаў і, прыняўшы тую былую легальную частку, хутка й паўсюдна ўбіліся ў існуючую дзесяцігоддзямі сістэму беларускай а-ля вясковае культуры.

Тыя, каму ўсё «на сподачку», адмовіліся ад афіцыёзу й афіцыйных структураў, сталі паўсюдна ствараць прынцыпова новае, сваё. Дыяпазон пошукаў бязьмежны. Хто стаў вуніятам, хто сацыял-дэмакратам, а хто й каталіком. Моладзь рашуча рушыла наперад, людзі сталага веку пастаянна азіраліся назад. Яны выявілі сапраўднае майстэрства доказу кампрамісу.

Прафэсар Конан, напрыклад, мадэрнізаваў асноўны пастулят Усевалада Ігнатоўскага пра сялянскасьць беларускай нацыі, якім, дарэчы, ня грэбаваў у свой час і Лаўрэньці Абэцэдарскі. Выступаючы на 1-ым Сусьветным зьезьдзе беларусістаў, ён, спаслаўшыся на тое, што апошнія сто гадоў асноўным спажыўцом беларускае культуры зьяўлялася вёска, якая ў апошнія гады амаль страціла сваю беларускасьць, прафэсар Конан зрабіў выснову, што дзеля адраджэньня нацыі неабходна наноў выхаваць беларускамоўнае сялянства. Памылковасьць такой высновы, на мой погляд, у тым, што за апошнія гады Беларусь ператварылася з аграрнае ў індустрыйную дзяржаву. Але, трэба адзначыць, гараджане, ня ўбіваючыся ў падрабязнасьці, успрынялі гэты пастулят досыць скэптычна.

Часам у нас пачынаюць блытаць культуру з рэлігіяй. Дагэтуль ня могуць супакоіцца прыхільнікі пераносу праха Максіма Багдановіча, натхнёныя прыкладам вяртаньня мошчаў Эўфрасіньні Полацкай з Кіева-Пячорскае Лаўры. Існуе нават мерваваньне, што пакуль косткі паэта ня будуць перазахаваны на Беларусі, у нас так і не пачнецца сапраўднае адраджэньне. Марацh пранесьці яго на руках аж ад самае Ялты. Гэткі крыжовы шлях са сьвятымі мошчамі на плячах...

НАЙБОЛЬШ насычанымі падзеі сталі пасьля таго, як невялікая частка інтэлектуальнае моладзі зьехала ў Вільню, абвясьціўшы



нашую гістарычную сталіцу галоўным месцам, дзе трэба шукаць страчаную традыцыю беларускае культуры. Менск яны абвясьцілі «мёртвым» горадам, максімальная пэрспэктыва якога — дарасьці ў культуры да ўзроўню індустрыйных парыжскіх ускраінаў. Пастулят гэты выводзіцца з таго, што немагчыма далей гаварыць пра чарговае адраджэньне нашае культуры, бо кожнае новае адраджэньне ў такім выпадку павінна пачынацца з нулявой адзнакі, вяртаючыся ў пачатак шляху пасьля кожнага заняпаду. Абвясьціўшы гэта абсурдам, хлопцы адправіліся ў Вільню шукаць падмурак, глебу для адраджэньня культуры. Цяжка спрачацца з такой пазіцыяй. Але калі шукаць пачатак культуры ў глабальным маштабе, тады трэба ўвогуле йсьці на паганскае капішча. Калі шукаць пачатак дзяржаўнасьці — трэба ехаць у Полацк. Калі шукаць пачатак каралеўска-эўрапэйскае традыцыі, тады трэба ехаць у Наваградак.

Але за аснову ўзята ўсё ж-такі Адраджэньне. Мабыць, яно мае права на існаваньне, калі ў Эўропе вылучана ў цэлую эпоху, пачатак якой прыпадае на канчатак Сярэднявечча. Тады яно не абмінула й Беларусь, новае адраджэньне ў Эўропу прыйшло ў эпоху нараджэньня капіталізму, калі пачалося канчатковае фармаваньне эўрапэйскіх нацыяў. Гэта калі паводле Маркса. Можна спрачацца пра гісторыка-філязофскае вызначэньне гэтага пэрыяду, але тое, што для нас ён пачаўся ў сярэдзіне мінулага стагоддзя — факт бясспрэчны. Ва ўсякім выпадку ён адзначыўся нараджэньнем новай, сучаснай культуры. Будавалася яна на нашай нацыянальнай традыцыі. Дастаткова параўнаць вершы Багушэвіча з фальклёрам, п ́есы Дуніна-Марцінкевіча з інтэрмэдыямі тэатраў Радзівілаў, Агінскага, Тызэнгаўза, а музыку Манюшкі — са сьвецкай палацавай музыкай тых жа часоў.

Паўстае пытаньне: «Дык якое ж адраджэньне нам браць за традыцыю?»

Калі першае, дык тады мы сапраўды вяртаемся ў пачатак шляху. Калі разглядаць за аснову, так бы мовіць, другое адраджэньне, мы можам пэўным чынам весьці размову пра пераемнасьць і няспыннасьць традыцыяў. Але тут узьнікае магчымасьць паспрачацца з віленскімі адраджэнцамі. Сэнс у тым, што Менск у апошнія гады меў вядучае становішча ў беларускай культуры.

Размова ідзе пра разбурэньне, парушэньне традыцый. Так, архітэктура Менска страціла непараўнальна больш, чымсьці віленская. Але культура — гэта ня толькі й далёка ня столькі архітэктура. З Вільняй адбылася яшчэ горшая справа. Апошнія сто гадоў высьвятленьня таго, каму належыць гэты горад, адбывалася, на жаль, паміж палякамі й летувісамі. Беларусы тут прысутнічалі адно як недарэчныя назіральнікі. На Менск, тым часам, ніхто не прэтэндаваў. А таму нельга абвяшчаць голай саўдэпаўшчынай тое, што мы не пачуваемся ў Вільні дома. Таксама, як і ў Беластоку, Смаленску альбо Чарнобылі. Бязглузда прыходзіць да чужых людзей у хату, дзе ты некалі жыў, і даводзіць новым гаспадарам, што ты дома...

Новавіленчукі гавораць, што зараз будуць уздымацца рэгіянальныя цэнтры беларускай культуры, такія, як Горадня, Нясьвіж, Віцебск і г. д. Уласна я толькі чакаю таго моманту...

А цяпер хочацца ўзгадаць яшчэ адзін аспэкт праблемы. Шукальнікаў традыцыі умоўна можна падзяліць на дзьве плыні. Першыя — тыя, хто прызнае за пастулят, што нацыі беларускай няма, што яна так і не пасьпела (дакладней — ёй не далі) сфармавацца. Сярод іх ёсьць большыя альбо меншыя максімалісты, але ўсе яны шукаюць традыцыю ў якасьці асновы, вакол якой можа сфармавацца моцная эўрапэйская нацыя. Каталікі натхняюцца прыкладам палякаў, праваслаўныя зважаюць на расейцаў, вуніяты палітычнымі сродкамі хочуць аб ́яднаць тых і другіх, сацыял-дэмакраты натхняюцца прыкладам былой статысячнай сацыял-дэмакратычнае Грамады.

Пазіцыя гэтая трымаецца на адмысловае трактоўцы вызначэньня нацыі, за якую выступае БНФ. Маецца на ўвазе, што нацыя — гэта супольнасьць людзей, аб ́яднаных агульнай мовай, гэаграфічнай тэрыторыяй, агульнымі эканамічнымі й культурнымі сувязямі. На першае месца, як мне здаецца, тут ставіцца мова, яна лічыцца першачарговым вызначальным фактарам наяўнасьці нацыі. Пры гэтым зусім не ўлічваюцца моманты мэнтальныя. Дарэчы, першым вызначэньне нацыі ў такім выглядзе падаў Маркс альбо Ленін, якія, як той казаў, для нас — не аўтарытэт. Да ўсяго мы ячшэ маем прыклады, якія пасьпелі стаць банальнымі: ірляндцы й шатляндцы, якія маюць уласную багацейшую гісторыю, захавалі сваю мову, як і мы, амаль выключна ў культурным асяродку, што не перашкаджае ім усё жыцьцё ўпарта змагацца за поўнае самавызначэньне. Заўважу, што мала што зьмянілі нават дзесяцігоддзі моцнай нацыянальнай моўнай палітыкі ў Ірляндыі. Наадварот, немцаў прынята лічыць адной нацыяй, у той жа ж час тырольцы лепш разумелі неапалітанцаў, чымсьці жыхароў Кёльна альбо Гановэра.

Другая плыня, да якой належаць пераважна віленскія адраджэнцы, лічыць, што беларусы — старая, даўно сфармаваная эўрапэйская нацыя. Для іх пошукі маюць адзіную мэту — вывесьці беларускую культуру на агульнаэўрапэйскі, агульнасусьветны агляд. Мэта, безумоўна, высакародная. Ажыцьцяўляць яе можна ў трох накірунках. Першы — збор, апрацоўка, асэнсаваньне й выданьне ўсяе нашае спадчыны. Другі — стварэньне ўласнае школы сусьветнае культуры праз пераклады, г. зн. асэнсаваньне яе на сваім мэнтальным узроўні. Трэйці — стварэньне новае, сучаснае культуры сусьветнага узору. У нас пакуль што амаль нічога гэтага няма.

**(Працяг на 6-й стар.).**

## Гарадзенскі акуліст Лазар Замэнгоф

**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.).**

значыцца, што акуліст Л. Замэнгоф пражываў у Горадні. «Гарадзенскія губэрнскія ведамасьці» нагадваюць аб тым, што калісьці Беласток быў правінцыйным гарадком Гарадзенскай губэрні. Фактычна, Гарадзеншчына зьяўляецца радзімай стваральніка міжнароднай мовы Эспэранта. З 1893 года па 1894 Л. Замэнгоф жыў і тварыў у нашым горадзе. Гэты факт актывізуе рух эспэрантыстаў Гарадзеншчыны. Пры аспэранта-клюбе г. Слоніма арганізаваны курсы мовы Эспэранта для бібліятэкараў. Авалодаўшы Эспэранта, яны стануць прапагандыстамі міжнароднай мовы для насельніцтва.

Эспэранта-клюб з цікавай назвай «Джардэна» («Сад») працуе пры дзіцячым садку № 82 г. Горадні. Выхавацелькі з дапамогай гульняў, вершаў, лічылак, песьняў вучаць дзяцей старэйшых груп мове Эспэранта. Тое, што Эспэранта — мова дружбы паміж людзьмі ўсяго сьвету, маленькія эспэрантысты ўжо спазналі на практыцы. У сакавіку адбылася сустрэча дзяцей з далёкім замежным госьцем — эспэрантыстам з Аргеньціны. Прафэсар Атыліё Фелана Рояс знаёміўся з дзецьмі на Эспэранта, й тыя трапна адказвалі на пытаньні, хто яны й дзе жывуць.

Эспэранта вывучаюць васьмікласьнікі СШ № 26 г. Горадні. Тут арганізавана Эспэранта-група «Зялёны ветразь». Зялёны колер — колер жыцьця. Зялёны штандар і зялёная зорка з літарай «Э» («Эспэранта») — асноўная сымболіка эспэрантыстаў усяго сьвету.

Эспэрантысты Гарадзеншчыны актыўна ўдзельнічаюць у рэгіянальных, рэспубліканскіх і міжнародных сустрэчах эспэрантыстаў, самі ладзяць такія сустрэчы. 15—16 сьнежня 1991 года Міжнародная сустрэча эспэрантыстаў адбылася на турбазе «Нёман», у ёй ўдзельнічалі 120 дэлегатаў з 25 гарадоў Беларусі, Летувы, Латвіі, Расеі, Украіны, Узбэкістана, Польшчы.

Аб міжнароднай сустрэчы эспэрантыстаў у Горадні, аб мэмарыяльнай дошцы з надпісам на дзьвюх мовах, беларускай і эспэранта, устаноўлена й у дзень нараджэньня стваральніка міжнароднай мовы Л. Замэнгофа, быў зьмешчаны вялікі артыкул у цэнтральным часопісе «Эспэранта». Пазьней быў надрукаваны ў гэтым жа часопісе фотаздымак дома, у якім жыў Л. Замэнгоф.

Ад імя эспэрантыстаў Рэспублікі Беларусь напісаны зварот у камісію па перайменаваньню вуліц з прапановай надаць вул. Кірава імя стваральніка міжнароднай мовы Л. Замэнгофа або Эспэранта. Добра было б прымеркаваць гэта да Міжнароднай сустрэчы эспэрантыстаў, прысьвечанай гісторыі Эспэранта — руху на Беларусі, якая адбудзецца ў верасьні і на якую зьбіраюцца прыехаць замежныя госьці з Англіі й Амэрыкі.

**Л. ВОЎКАВА,**
**старшыня Асацыяцыі эспэрантыстаў Рэспублікі Беларусь.**





# *ЛІТАРАТУРА. ПЕРАКЛАДЫ*

Гайнрых БЕЛЬ

## Успаміны маладога караля

Ад перакладчыка:

Перабіраючы свае архівы, я знайшоў гэты пераклад апавяданьня Гайнрыха Бёля. Рабіў я яго яшчэ будучы студэнтам перакладчыцкага факультэта Менскага інстытута замежных моў, а было гэта ў год прысуджэньня Бёлю Узнагароды Нобэля. Аднак у тыя часы вядомы нямецкі пісьменьнік быў у савецкай няласцы, вядома, пра публікацыю перакладу не было й мовы, апавяданьне Гайнрыха Бёля прапаную ўвазе чытачоў «Пагоні».

**Уладзіслаў Струміла.**
**г. Вільня.**

Калі мне споўнілася 13 гадоў, я стаў каралём Капоты. Я сядзеў якраз у сваім пакоі і сьціраў «не» у слове «незадавальняюча», якое стаяла ў канцы майго заданьня. Мой бацька Піг Гі I, кароль Капоты, выбраўся на чатыры тыдні ў горы на паляваньне, і заданьне мне трэба было паслаць кур ́ерам. Я разьлічваў на дрэннае асьвятленьне ў паляўнічых павільёнах, аднак старанна выціраў «не», і ў гэты час да мяне данёсься моцны крык з вакна:

— Няхай жыве Піг Гі II!

Праз хлівіну ў пакой увайшоў мой камэрдынэр, ужс на парозе ўпаў на калені й прашаптаў:

— Няхай прабача Ваша Каралеўская Вялікасьць, што я паведаміў пану прэм ́еру аб той папяросе Вашай Каралеўскай Вялікасьці.

Паводзіны камэрдынэра мне не спадабаліся, я загадаў яму выйсьці, а сам зноў заняўся няшчасным «не». Мой хатні настаўнік ставіў адзнаку заўсёды чырвоным чарнілам. Церучы па адным месцы, я зрабіў у сшытку дзірку. У гэты час мне зноў перашкодзілі. Увайшоў прэм ́ер, у дзьвярах стаў на калена і ўскрыкнуў:

— Няхай жыве Піг Гі II, няхай жыве, няхай жыве! — Пасьля чаго ён дадаў: — Ваша Каралеўская Вялікасьць, люд хоча Вас бачыць!

Нічога не разумеючы, я адлажыў у бок сьцірку, строс з рук пыл і запытаў:

— Чаму люд хоча мяне бачыць?

— Бо Вы — кароль.

— З якога часу?

— Паўгадзіны таму надаз Вы сталі каралём. Яго Каралеўская Вялікасьць, Вашага бацьку, застрэлілі на паляваньні Шасакі. (Шасак — скарочаная назва ад «шалёны садыст Капоты).

— Ох, гэтыя Шасакі!

Пасьля чаго я пайшоў усьлед за прэм ́ерам і, стаўшы на балконе, паказаўся народу. Вельмі заклапочаны, я толькі ўсьміхаўся і махаў рукамі.

Спантанная дэманстрацыя працягвалася каля дзьвюх гадзін. Толькі вечарам, калі пашарэла, народ разыйшоўся, аднак праз некалькі гадзін ён зноўку прайшоў перад палацам — на гэты раз то быў паход з паходнямі.

Я пайшоў у свой пакой, парваў сшытак з заданьнямі і шматкі паперы выкінуў на ўнутраны падворак палацу. Там, як я даведаўся пасьля, іх сабралі зьбіральнікі памяткаў і прадалі ў чужыя краіны ́, дзе да сёньняшняга дня захаваліся довады маёй слабой арфаграфіі.

Пачаліся месяцы цяжкай працы. Шасакі спрабавалі арганізаваць путч, аднак Дасакі (дабрадушныя садысты Капоты) і армія путч задушылі. Калі бацька быў пахаваны, адбылася мая каранацыя ў Капоцкім саборы. Цяпер я быў вымушаны прымаць удзел у паседжаньнях парлямэнту і падпісваць розныя паперы, аднак увогуле быць каралём мне падабалася, бо ў стасунку да майго хатняга настаўніка я мог прыбягаць да мэтадаў, якія я не стасаваў раней.

Калі на ўроку ён пытаў у мяне:

— Ці ня скажа мне Ваша Каралеўская Вялікасьць, якія правілы існуюць для няправільных дробаў?

Я адказваў:

— Не скажу.

І настаўнік нічога ня мог зрабіць. Калі ён гаварыў:

— Ці лічыла б Ваша Каралеўская Вялікасьць рэчай нязноснай, калі б я папрасіў, каб Вы напісалі, якімі матывамі кіраваўся Вільгельм Тэль, забіваючы Гэсснера?

Я адказваў:

— Так, я лічыў бы гэта нязноснай рэчай.

І я патрабаваў, каб ён сам пералічыў матывы. Вось такім чынам, зусім бяз цяжкасьцей, я прайшоў поўную адукацыю. Я спаліў усе падручнікі і сшыткі і аддаўся сваім улюбёным забавам: гуляў у мяч, кідаў у дзверы сьцізорык, чытаў дэтэктывы і прысутнічаў на доўгіх канфэрэнцыях з кіраўнікамі кіна пры двары. Я загадаў, каб былі закуплены ўсе мае любімыя фільмы, а ў парлямэнце я выступіў са школьнай рэформай.

Гэта быў цудоўны час, хоць мне і надакучвалі паседжаньні парлямэнту. Мне ўдавалася гуляць ролю маладога мэлянхалічнага караля. Я цалкам пакладуся на прэм ́ера Пэльцэра, які быў сябрам бацькі і сваяком маціньбожчыцы.

Прайшло тры месяцы, і Пэльцэр захацеў, каб я ажаніўся. Ён сказаў:

— Ваша Каралеўская Вялікасьць павінна даваць прыклад.

У прынцыпе я не баяўся жаніцьбы, дрэнным было толькі тое, што Пэльцэр прапанаваў мне сваю адзінаццацігадовую дачку Гэдвіг — малую худую дзяўчынку, якую я часта бачыў з мячыкам у двары. Яна была, мабыць, крыху дурнаватай, бо другі год сядзела ў пятай клясе. На выгляд — вельмі сярдзітая. Я выпрасіў сабе час на роздум, трапіў у сапраўдную мэлянхолію, цэлымі днямі сядзеў ля вакна і прыглядаўся да Гэдвіг, якая або кідала мячык, або скакала. Цяпер яна была крыху менш апранута, ад часу да часу паглядала ў мой бок і усьміхалася. Аднак усьмешка яе мне выдавалася несапраўднай.

Калі мінуў час, вызначаны на роздум, Пэльцэр зьявіўся перада мной у сваім выйсьцёвым муньдзіры — вялікі чалавек з жоўтым тварам, чорнай барадой і вачамі, якія блішчэлі.

— Ці можа Ваша Каралеўская Вялікасьць паведаміць мне аб сваім рашэньні? — запытаў ён.— Ці маё дзіця знайшло пяшчоту ў вачах Вашай Каралеўскай Вялікасьці? А калі я сказаў коратка «не», здарылася нешта страшнае. Пэльцэр сарваў эпалеты, а свой партфэль прэм ́ера — быў ён са штучнай скуры — кінуў мне пад ногі, пачаў вырываць з барады валасы і крычаць:

— Вось як выглядае ўдзячнасьць каралёў Капоты!

Я апынуўся ў няёмкай сітуацыі. Бяз Пэльцэра я прапаў. Хутка зарыентаваўшыся, я сказаў:

— Я прашу рукі Вашай дачкі Гэдвіг.

Пэльцэр упаў перада мной на калені, пачаў цалаваць мае ногі, пасьля падняў эпалеты і партфэль са штучнай скуры.

Шлюб мы ўзялі ў саборы ў Вружкове. Людзям былі раздадзены хлеб і каўбаса і па майму загаду па два білеты на карусэлю. Восем дзён крыкі й гоман панавалі ў сьценах палацу.

З гэтага часу я дапамагаў Гэдвіг рабіць арыфметыку, мы разам гулялі ў мяч, вучыліся скакаць праз вяровачку, разам езьдзілі конна і заказвалі сабе вату з цукру або йшлі ў кіно пры дворы, калі нам толькі хацелася. Быць каралём мне падабалася, аднак нечаканы выпадак падвёў апошнюю крэску ў маёй кар ́еры.

Калі мне споўнілася 14 гадоў, мяне прызначылі каманьдзірам 8-га палка, надаючы званьне палкоўніка. Гэдвіг стала маёрам. Цяпер мы павінны былі ад часу да часу праязджаць перад фронтам палка, прымаць удзел у вячэрах у Касыне і падчас урачыстых сьвят прышпільваць ордэны на грудзях заслужаных салдат. А пасьля здарылася гэтая гісторыя з Паскопакам.

Паскопак, салдат чацьвёртага эскадрону майго палка, у адзін суботні вечар дэзэртаваў, каб усьлед за нейкай цыркавой артысткай павандраваць у другую краіну. Яго, аднак, схапілі і пасадзілі ў турму, пасьля чаго вайсковы трыбунал прыгаварыў яго да пакараньня сьмерцю. Мне як камандзіру палка трэба было падпісаць прысуд, аднак я толькі напісаў: «Прыгавор зьмяніць на 14 дзён турмы. Піг Гі II». Гэтыя некалькі слоў і «заварылі кашу». Афіцэры майго палка ўсе да аднаго пазрывалі свае эпалеты й зага-



далі маладому паручніку рассыпаць іх у маім пакоі. Ордэны яны таксама пазрывалі. Уся армія Капоты далучылася да бунту, такім чынам вечарам мой пакой быў завалены эпалетамі і ордэнамі. Карціна была ня з лепшых.

Людзі, праўда, крычалі ў мой адрас «віват», аднак яшчэ ў тую ж самую ноч Пэльцэр паведаміў мне, што ўся армія перайшла на бок Шасакаў. Быў чутны крык і стрэлы, дзікі трэск аўтаматаў разьдзіраў цішыню. Дасакі, праўда, прыслалі мне асабістую стражу, але на працягу ночы Пэльцэр перайшоў на бок Шасакаў, такім чынам я разам з Гэдвіг вымушаны быў уцякаць. Мы забралі з сабой вопратку, грошы і сэртыфікаты, Дасакі прыслалі таксі, і нам з вялікімі цяжкасьцямі ўдалося даехаць да пагранічнай станцыі, дзе мы ўжо амаль без сілы селі у спальны вагон другой клясы і паехалі на захад. На граніцы Капоты былі чутны стрэлы й дзікія крыкі — страшэнная музыка бунту.

Ехалі мы чатыры дні і сышлі ў горадзе, які называўся Пялюшкава. Пялюшкава (гэта я ўспомніў урок гэаграфіі) было сталіцай суседняй краіны.

Тым часам Гэдвіг і я пазнавалі рэчы, якія навучыліся цаніць: горкі пах чыгункі, смак сардэлек на чужых вакзалах, акрамя таго, я мог курыць, колькі пажадае мая душа. Гэдвіг жа, якой ня трэба было рабіць школьныя заданьні, расквітала на вачах.

На другі дзень нашага прыезду ў Пялюшкава, у горадзе пачалі расклейваць вялікія афішы, на якія мы адразу зьвярнулі ўвагу: «Цырк Хупкэ. Славутая артыстка Гуля са сваім партнёрам Юргэнам Пасткопам». Гэдвіг тут жа ўсклікнула:

— Піг Гі, падумай аб нашым жыцьці. Паскопак табе дапаможа.

У нашую гасьцініцу кожную гадзіну прыходзілі тэлеграмы з Капоты, у якіх паведамлялася аб перамозе Дасакаў, сьмерці Пэльцэра, рэарганізацыі войска. Новы прэм ́ер — называўся ён Шмідт — і быў кіраўніком Дасакаў, прасіў мяне, каб я вярнуўся і з рук народа ізноў прыняў жалезную карону каралёў Капоты.

Я вагаўся некалькі дзён, але нарэшце перамог страх Гэдвіг перад школьнымі заданьнямі. Такім чынам, я пайшоў у «Цырк Хупкэ» і сказаў, што хачу паразмаўляць з Паскопакам. Прыняў ён мяне з вялікай радасьцю.

— Мой збавіцель! — ускліўнуў ён, стоячы ў дзьвярах свайго вагончыка.— Што я магу для Вас зрабіць?

— Мы хочам жыць,— проста сказаў я.

Паскопак расказаў пра мяне Хупкэ. Я пачаў прадаваць у цырку спачатку ліманад, потым папяросы, затым гуляш. Атрымаў свой вагончык. Праз некаторы час я стаў касірам. Узяў іншае прозьвішча — Цюкэ. Вільгельм Цюкэ. І з гэтага часу тэлеграмы з Капоты мне перасталі прысылаць.

Там лічаць, што я памёр, загінуў, а я тым часам вандрую з расквітаючай Гэдвіг па сьвеце ў цыркавым вагончыку. Удыхаю ў сябе пах чужых краін, бачу іх, цешуся вялікай павагай у Хупкэ. І калі б ня тое, што ад часу да часу да мяне прыходзіць Паскопак і расказвае пра Капоту, калі б не яго жонка, чароўная артыстка Гуля, якая кожны раз паўтарае мне, што муж яе жыве дзякуючы мне, я б зусім не памятаў аб тым, што калісьці быў каралём.

Аднак нядаўна я знайшоў сапраўдны доказ майго колішняга каралеўскага жыцьця. Мы былі якраз на гастролях у Мадрыдзе, і ранкам я з Гэрвіг гуляў па горадзе. Вялікі шэры будынак з надпісам «Народны музэй» прыцягнуў нашую ўвагу.

— Зойдзем,— сказала Гэдвіг.

Мы ўвайшлі ў адну вялікую залу, якая знаходзілася крыху збоку і над якой была бачна шыльдачка «Палеаграфія». Нічога не прадчуваючы, мы разглядалі паперы розных прэзідэнтаў і каралёў і дайшлі, нарэшце, да шкляной вітрыны, на якой была наклеена белая вузкая картачка «Каралеўства Капоты, ад двух год рэспубліка». Я ўбачыў паперы свайго дзеда Вука II-га, кавалак вядомага Маніфэсту Капоты, які ён сам склаў, знайшоў таксама картку з паляўнічага дзёньніка майго бацькі, а ў канцы картку з ўласнага сшытку — кусок брудной паперы, на якім я прачытаў: «Жабы квакаюць у рацэ». Я сарамліва павярнуўся да Гэдвіг, але яна толькі усьміхнулася і сказала:

— Гэта было калісьці.

Мы хуценька выйшлі з музэя, бо была ўжо першая гадзіна. А трэцяй пачыналася прадстаўленьне, а другой гадзіне мне трэба было адчыняць касу.

## Вайсковая спэцыяльнасьць не да густу

Яшчэ нядаўна спэцыяльнасьць кадравага вайскоўца была паважанай сярод гарадзенскай моладзі. Толькі за апошнія тры гады ў вайсковыя вучэльні, якія разьмешчаны на тэрыторыі сувэрэннай Беларусі і за яе межамі, выказвалі жаданьне паступаць што год прыкладна 40 выпускнікоў школ і ПТВ. Аднак сёлета гэтая лічба значна зьменшылася. Пакуль што атрымаць прафэсію вайскоўца пажадалі толькі тры юнакі ў Гарадзенскім раёне.

**Г. В.**





# КАНФЭСІІ

## З 1937-м годам, сябры!

На паліцах кнігарняў зьявілася кніжка пад назовам «Храналогія гісторыі Беларусі», выдадзеная ў серыі «Энцыклапедычная бібліятэчка «Беларусь». Як пазначана на вокладцы, гэта «3-е выданьне, перапрацаванае і дапоўненае». Варта дадаць, што першае было надрукавана ў 1982-м годзе. Як нас запэўніваюць «складальнікі», у новым выданьні «больш поўна адлюстраваны падзеі на Беларусі...». З гэтым нельга не пагадзіцца. У кніжцы, дзе на вокладцы недарэчна суседзяць Пагоня й былы асноўны гонар беларусаў — шматтонны БелАЗ, сапраўды зьявіліся згадкі пра бітву пад Воршай і (які жах!) нават пра 25-га сакавіка 1918 года. Але гэта ўсё, як той казаў, касметыка.

Непарушнай застаўся галоўны саўдэпаўскі падзел нашае гісторыі: 57 старонак асьвятляюць падзеі ад дагістарычнага пэрыяду (першая згадка пра 100—40 тысячаў гадоў таму) і да сумнавядомага 1917 году. На пэрыяд ад 17-га году й да 30-га сьнежня 1991 году прыпадае 136 старонак. Але вы не падумайце, што я заклікаю ўкладальнікаў зьменшыць прапорцыі. Ім яе трэба павялічваць да бязконцасьці, бо яны проста вырашылі «не кранаць сьвятое». Я магу гэта даказаць. Паважаныя чытачы, хочаце даведацца, якімі галоўнымі датамі, напрыклад, вызначаецца для беларусаў 1937 год? Калі ў вас няма кніжкі пад рукою, я думаю, мне варта працытаваць гэты раздзел цалкам. Тым больш, што шмат месца гэта ня зойме:

«1937 год.

Усебеларуская нарада жанчынтрактарыстак.

Усебеларуская нарада ініцыятараў стаханаўскага руху.

Апублікаваньне праэкта Канстытуцыі БССР для ўсенароднага абмеркаваньня.

Працяг работы 12-га (надзвычайнага) Усебеларускага з'езда Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў; прыняцьце новай Канстытуцыі БССР (19.2.1937 г.)

Рэспубліканская нарада перадавікоў сельскай гаспадаркі. 16-ы з'езд КП(б)Б.

Узнагароджваньне Менскага фізкультурнага тэхнікума ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцяга.

Выйшаў 1-ы нумар газеты «Советская Белоруссия» — орган ЦК КП(б)Б.

Выстаўка «БССР за 20 год», прысьвечаная 20-годззю Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Выбары ў Вярхоўны Савет СССР 1-га скліканьня.

Пабудавана 1-я чарга Аршанскага льнокамбіната».

Як кажуць у такіх выпадках: «камэнтары не патрэбны». Але я ўзяў нават адсюль карысную інфармацыю, якой, па ідэі, павінны зацікавіцца й тыя, хто выдае «Кнігу рэкордаў Гінэса». Ва ўсялякім выпадку я цяпер ведаю, што праэкт канстытуцыі можна «усенародна абмеркаваць» крыху болей, чым за два тыдні.

У прадмове «складальнікі і рэдактары кнігі» пішуць пра тое, што «з удзячнасцю прымуць усе слушныя заўвагі па ўдасканаленьню і дапаўненьню храналогіі і ўлічаць іх пры падрыхтоўцы новых выданьняў». У мяне будзе толькі адно слушнае й грунтоўнае пажаданьне: «Хлопцы, кіньце вы гэтую справу!».

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**г. Менск.**

## Нехадавы тавар

Аж ахнулі ад зьдзіўленьня Берасьцейскія мытнікі, калі нарэшце вырашылі праверыць зьмесціва пяці вялікіх тэрмасаў у турыста Б., які ад'язджаў у суседнюю Польшчу. Замест гарачай кавы ці гарбаты перад вачыма мытных кантралёраў блішчэлі чырвоныя коркі літровых бутэлек сьпірту «Гаспадзін».

Дарэчы, «няўдалы» турыст ужо працяглы час езьдзіць да Польшчы з гэтымі тэрмасамі і заўжды казаў інспэкцыі, што тэрмасы — нехадавы тавар на торжышчы суседняй краіны, але яму няма чаго болей везьці.

**Г. КРЫВЕЦ.**

# На фэсьце ў Жыровічах

Невялічкі пляц перад Сьвятажыровіцкім кляштарам быў запоўнены легкавікамі так, што нават пешшу працiснуцца было цяжка. А машыны ўсё пад'язджалі й пад'язджалі. Тыя, каму не хапіла месца на пляцы, паркавалі свае транспартныя сродкі проста на бліжэйшых вуліцах. Угледаюся ў нумары легкавікоў і здзіўляюся. Божухны, здаецца, ўвесь сьвет зьехаўся сюды, ў Жыровічы. Якіх тут толькі машын не сустрэнеш! Вось прыныніліся гуртам легкавікі з Берасьцейшчыны, а там, непадалёк, цэлым шэрагам у сутоньні ліпаў стаяць аўтобусы з літарамі «МИА», «МГБ», «РВГ», «ВТД». Калі пачынаеш праціскацца скрозь гэтыя бліскучыя шыхты, заўважаеш, што нямала гасьцей даехала да нас з Летувы, Латвіі, Расеі, Польшчы.

Усе, хто прыехаў, апрануты ў сьвяточныя строі, настрой іх узьняты. Людзі нетаропка накіроўваюцца да галоўнай брамы кляштара, пры сутыкненьнях ветла ўсьміхаюцца адзін аднаму ці робяць выгляд, што нічога не здарылася.

На прыступках галоўнай царквы кляштара (усіх іх пяць) гасьцей вітаў Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філярэт, ля яго стаяць іншыя чыны праваслаўнай царквы на Беларусі. Побач іх заўважаю ўладыку Гарадзенскага й Ваўкавыскага Валяньціна. Паводдаль іншыя сьвятары, манахі й манашкі. Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філярэт пачынае пералік ганаровых гасьцей. Сярод іх чую нават імёны прадстаўнікоў праваслаўнай дыяспары з Ташкента, Сібіры, Масквы, Кіеву.

Расчыняецца брама, й сьвятары разам з гасьцямі ідуць у глыбкі храма, бліжэй да алтара. За імі пачынаюць рух манахі, вернікі, проста ахвочыя. Усе нясуць у руках кветкі — пераважна ружы — і складаюць іх пад вобразы сьвятых моляцца. Папераць царквы хутка запаўняецца натоўпам. Людзей набіраецца столькі, што праціснуцца ці хоць паварушыць рукой амаль немагчыма.

Пачынаецца набажэнства, яго вядзе Мітрапаліт Менскі й Слуцкі. Па храму разносяцца словы імшы «возлюби ближнего своего, не дай зачерствевать душе. Воздавай дань богу и сыну его Иисусу». Хор падхопліваe ўрачыстыя словы набажэнства. Уяўленьне такое, што быццам трапіў у сьвет, які напоўніўся прыгажосьцю, дабрынёй, і будзе такім вечна. Набажэнства набірае моцы, вірує па ўсіх кутах душы. На вачох некаторых вернікаў сьлёзы. З трэскам гараць васковыя сьвечкі, ладан. Чуюцца словы сьвятой малітвы аб пакаяньні.

Непадалёк мяне на прыступках алтара рыхтуецца працэсія з харугвамі. На чале яе гуртуюцца сьвятары, пачынаецца шэсьце. Людзі, якім не хапіла месца ў храме, вітаюць працэсію. Да іх са словамі вучэньня Божага зьвяртаецца Мітрапаліт. Ён нагадвае ўсім, што больш як 400 год на сьвятую зямлю Беларусь у Жыровічах ступіла нага Багародзіцы прысьнадзевы Марыі. Гэта сьведчаньне таго, што Багародзіца зьяўляецца заступніцай зямлі беларускай. І, можа, толькі дзякуючы яе абароне, мы, дзеці зямлі беларускай, выжылі, вытрывалі й пачалі адраджацца.

**Г. АСТРОЎСКІ,**
**Горадня — Жыровічы.**

## Для аздараўленьня дзяцей

**Экалягічны цэнтр створаны нядаўна на кафэдры дзіцячых хвароб пры Гарадзенскім клінічным дзіцячым шпіталі. Цэнтр мае на мэце выяўленьне чыстых зонаў на тэрыторыі ўсёй рэспублікі й стварэньне на гэтых плошчах санаторыяў і дамоў адпачынку для дзяцей, пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС.**

**Г. У.**







**Вокны.** **Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

# Краязнаўчы музэй

**(Пачатак на 4 стар.).**

Але ў любой сітуацыі, нават самай дрэннай, ёсьць свае плюсы. Так, мы не стварылі сваёй панарамнае культуралягічнае ды гістарыяграфічнае карціны. Але мы й не стварылі нявартых падробак, накшталт тэлефільма Летувіскае тэлевізіі пра «караля Міндаўгаса й ягонага сына Войшвілкаса ў караляўскім замку Ворутэ», які паказалі па Астанкіна ў дзень незалежнасьці Летувы...

Вернемся аднак да нашае размовы пра пошукі традыцыі. Амаль усе заходнія творчыя асобы сьцьвярджаюць, што вялікі ўплыў на іхнюю творчасьць аказалі такія расейскія пісьменьнікі, як Дастаеўскі, Талсты, Чэхаў. Сярод нашай беларускай інтэлігенцыі назіраецца такая акалічнасьць: адны таксама чытаюць вышэй названых пісьменьнікаў, а таксама Салаўёва, Бярдзяева й г. д., другія непараўнальна больш бяруць менавіта ад тых, хто карыстаўся творамі гэтых аўтараў пад час сваіх ідэйных пошукаў. Гэта Борхэс, Картасар, Сартр, Камю й шмат хто іншы. Як пісаў Ігнат Абдзіраловіч яшчэ ў дваццатыя гады, беларусы ўвабралі ў сябе як чыста заходні прагматызм, так і ўсходнюю «шырату душы».

А цяпер зноў пра ролю Менска ў Адраджэньні ці адраджэньні культуры. Калі гавараць пра разбурэньне традыцыяў, дык у гэтым сэнсе правінцыя, а дакладней былыя цэнтры культуры — Тураў, Полацк, Ворша, Клецак і г. д.— страцілі непараўнальна больш, чым Менск. Яшчэ Імануіл Кант пісаў, што культура — гэта ня толькі й ня столькі традыцыя, але яшчэ й творчасьць. Самае страшнае тое, што ў правінцыі была пабурана ня толькі культурная традыцыя, але амаль цалкам зьнішчаны творчы асяродак. І якім бы наступствам сацыялістычнае гіпэрцэнтралізацыі не было тое, што асноўная й пераважная большасьць творцаў жыве ў Менску, гэта — рэчаісьнасьць. Хоць колькасьць і якасьць — рэчы не сінанімічныя, тым ня менш творчы патэнцыял Менска застаецца велізарным. Лішне казаць, што ідэя культуровае экспансіі нашае былой сталіцы — Вільні, нарадзілася таксама менавіта тут...

Канешне, усё залежала ад пункту гледжаньня на тое, што маецца пад паняцьцем уласна беларускае культуры. Узяць, напрыклад, беларускі балет. З пазіцыі адраджэнцаў ён, атрымліваецца, не наш, бо пабудаваны па агульнае клясычнае схеме, але не на традыцыях былых тэатраў Радзівілаў, Агінскага, Тызэнгаўза. Але ў адным з інтэрв'ю кіраўнік балету Валяньцін Елізар'еў, сам не беларус, на пытаньне, чаму ён не размаўляе па-беларуску, пакпіў: атрымліваецца, што хлеб чужы ем? Але ж я стварыў у вас балет, які ня сорамна паказаць на любой пляцоўцы сьвету. Гэта хіба ня лічыцца?

Адно — аднаўляць традыцыі, іншае — займацца ўласнай творчасьцю. І ня варта спрабаваць вызначыць, што больш істотна. І тое, й другое разам складаюць адно цэлае — беларускую культуру. А вынік залежыць толькі ад таленту й прафэсіяналізму тых, хто гэтым займаецца. Дык давайце ж лепш ня будзем спрачацца, а кожны хай шчыра робіць сваю справу.

**Алесь АСТРАЎЦОЎ,**
**г. Менск.**

